Як цудоўны плод Твайго выратавальнага пасеву, Госпад, зямля наша, Беларуская, прыносіць Табе ўсіх сьвятых, якія зазьзялі ў нашай зямлі. Іх малітвамі захавай наш народ, Шматміласьцявы.
Усі сьвятыя Беларускага народу, маліце Бога за нас!
Дагаджальнікі Боскія, мучанікі і сьвятамучанікі Беларусі, нашая зямля радуецца і нябёсы весяляцца, усяслаўляючы подзьвігі вашыя! Вы Беларусі Сьвятой замацаваньня, вы стаўпы і прыгажосьць нашай Царквы! Жывучы ў нявячэрням сьвятле ўладарства Боскага, маліцеся за нас, за збаўленьня душ нашых.
Прасіце дабраслаўленьня Бога на нашую Радзіму, каб замацавалася ў нас вера праваслаўная, мір і набожнасьць.
Сонца праўды Хрыстос паслаў вас, як праменьні, што асьвячаюць нашую зямлю, дагаджальнікі Боскія, сьветачы народу Беларускага. Душу народу нашага малітвамі вашымі асьвяціце.
Радуйся, Усясьвятая Багародзіца, Абаронца нашай бацькаўшчыны, што Сваім дабраваленьням вянчала Беларусь Сьвятую ад старажытнасьці і пасылаеш ёй Сваю дабрыню! Не адыміад нам, Уладарка, і цяпер міласьці Твае. Паглядзі на Разіму нашую і дапамагі Сваёй аваронай. Усясьвятая Богародзіца, Пакроў зямлі Беларускай, выратуй нас!
О, Тройца Ўсясьвятая! Прымі, што Беларусь прыносіць Табе, як водар прыемны, усіх дагаджальнікаў Тваіх - сьвятых беларускага народу, вядомых і невядомых - і, малітвамі іх, абарані нашую зямлю ад усяго злога.
Амін.